

# БЕРАСЬЦЕ



**№ 3-4 Люты/Сакавік**
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца сярод сябраў і прыхільнікаў БНФ.

**Інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейскай гарадзкой Рады Партыі БНФ і Руху Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"**

## 25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ВОЛІ

*Шаноўныя берасьцейцы!*

*Віншуем Вас з асноўным Нацыянальным Сьвятам нашае Бацькаўшчыны. 82 гады таму была абвешчаная незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. Пасьля шматгадовае расейскае акупацыі беларусы на ўвесь сьвет заявілі пра сваё законнае права быць гаспадарамі ва ўласнай краіне.*

## Адкрыты ліст Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Івонкі Сурвілы да беларускага народу



Дарагія мае браты і сёстры – беларусы!

Зьвяртаецца да Вас Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – той Рады, якой беларускі народ у 1917 годзе даручыў свой лёс і якая абвесьціла 25 сакавіка 1918 году незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. На долю Рады БНР выпала цяжкая адказнасьць бараніць гэтую незалежнасьць ды змагацца за яе ўсімі даступнымі сродкамі.

Рада БНР выбрала мяне на становішча старшыні ў 1997 годзе. Упершыню выбрала жанчыну, сіла якое (дазволю сабе сказаць словамі нашага вялікага Янкі Купалы) у "любові да свае Радзімы, да свайго народу".

Напярэдадні нашага Дня Волі, дня, які нашыя суродзічы ўва ўсім сьвеце сьвяткуюць як найвялікшае нашае нацыянальнае сьвята – нашае сьвята годнасьці, бо ж у гэты дзень народ наш абвесьціў сьсвету, пасьля доўгае няволі, што ён таксама хоча жыць вольным і незалежным ды быць гаспадаром у сваёй хаце – хачу падзяліцца з Вамі маім болем і маёй трывогай за Вашу будучыню і за будучыню Вашых дзетак і ўнукаў. Бо край знаходзіцца зноў у вялікай небясьпецы. Зноў хочуць адабраць яго ў Вас, зьняволіць Вас.

Сталін сваім часам нішчыў наш народ голадам, арыштамі, і ссылкамі ў Сібір. Цяпер ягоныя пасьлядоўнікі Пуцін і Лукашэнка пры дапамозе хлусьні і паліцыйнай сілы намагаюцца паставіць Вас ізноў на службу "стратэгічным інтарэсам" расейскай імпэрыі. Ва ўмовах зманапалізаваных сродкаў масавае інфармацыі лукашэнкаўскі рэжым зацягвае Вас у так званую інтэграцыю з Расеяй, але адзіным вынікам гэтае прадажнае палітыкі будзе Вашае зьбядненьне ды ў канцы зьнішчэньне Вас як нацыі, як народу.

Дарагія мае браты і сёстры – беларусы, дарагая моладзь, любыя дзеткі (з тысячамі якіх я мела нагоду спаткацца тут, у Канадзе)! Першы раз зьвяртаюся да Вас з адкрытым лістом, бо хачу, каб Вы мяне пачулі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі робіць усё, што можа, каб памагчы Беларусі перажыць цяперашні крызыс ды выйсьці зь яго незалежнай, свабоднай і заможнай краінай. Але бяз Вашага ўдзелу мы ня выратуем Бацькаўшчыны. Трэба, каб і Вы паказалі сьвету, што Вы ведаеце вартасьць волі, што ня хочаце быць прыладай маскоўскага імпэрыялізму й праліваць за яго сваю кроў.

Пры развале савецкай камуністычнай імпэрыі Бог даў нашаму народу вялікі падарунак – Волю. Такія цуды ў гісторыі не паўтараюцца. Дык не дапусьцім жа, каб гэты падарунак пайшоў намарна. Беражэце гэты скарб Ваш. Пакажэце сьвету, што беларускі народ яшчэ жыве. У Дзень Волі 25 сакавіка выходзьце сотнямі тысячаў на вуліцы. Ідзеце са сьцягамі, сьвечкамі і абразамі. З малітвай да Бога, каб ён паслаў "праменьні Свае хвалы" на наш край і народ!

Жадаю Вам сілы, мужнасьці, вытрыманасьці.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Івонка Сурвіла*
*Старшыня Рады БНР*

# Зварот Сойму Партыі БНФ да грамадзянаў Беларусі пра 82-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР)

25 сакавіка 1918 году Рада БНР прыняла Трэцюю Ўстаўную Грамату, абвесьціўшы сьвету незалежную эўрапэйскую дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку. Быў зьдзейсьнены акт надзвычайнае гістарычнае значнасьці — ад гэтага часу Беларусь і беларускі народ прызнаваліся роўнымі сярод роўных у сям'і дзяржаўных народаў сьвету.

І хоць наша незалежніцкая хада на доўгія наступныя гады была прыпыненая расейскім бальшавіцкім акупацыйным рэжымам, высакародныя ідэалы БНР не памерлі. ***Бо няма нічога наймацнейшага перад сьвятой народнай воляй.*** Гэта пацьвердзілі мы, беларусы, калі на пачатку 90-х гадоў за кароткі тэрмін аднавілі беларускую дзяржаўную ***Незалежнасьць,*** вярнулі на дзяржаўны пасад нашу ***Пагоню*** і наш сьвяты ***бел-чырвона-белы сьцяг.***

Аднак адраджэньне Бацькаўшчыны чарговы раз было гвалтоўна перарванае антыбеларускімі сіламі. Цяперашні прамаскоўскі дыктатарскі рэжым, ад самага пачатку скіраваны на ліквідацыю незалежнае Беларусі, у сьнежні 1999г. з падпісаньнем пагадненьня паміж Менскам і Крамлём пра стварэньне так званай «саюзнай» дзяржавы паставіў апошнюю кропку. Гэтая змова ўяўляе для Беларусі сьмяротную небясьпеку, бо прадугледжвае няўхільнае зьнішчэньне беларускіх дзяржаўніцкіх і незалежніцкіх каштоўнасьцяў, пасьля чаго адбудзецца захоп усёй маёмасьці краіны маскоўскімі спэцслужбамі ды калямаскоўскімі алігархамі; найгоршае ж — гэта ўцягваньне Беларусі ў імпэрскую ваенную палітыку. Ужо сёньня праявілася, як з непрыхаваным цынізмам усё больш і больш асноўных уладных пасадаў у Беларусі аддаюцца выхадцам з расейскіх губерняў. Гэта нахабны выклік краіне і асноўнай этнічнай беларускай супольнасьці, якая складае больш за 80 адсоткаў ад усяго насельніцтва.

Пагроза нацыянальнаму існаваньню павінна аб'яднаць усіх беларусаў — у нас цяпер няма больш важнае задачы за абарону нашае дзяржавы і незалежнасьці.

***Сойм Партыі БНФ зьвяртаецца да грамадзянаў Беларусі з заклікам падтрымаць бесьперапынную акцыю "Беларуская Салідарнасьць" ды стаць на абарону НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, СВАБОДЫ І СУВЭРЭНІТЭТУ БЕЛАРУСІ перад расейскаю пагрозаю.***

Мы мусім змагацца за незалежнасьць і свабоду ўсюды, дзе мы ёсьць — у войску, на прадпрыемствах, у міліцыі, ВНУ, міністэрствах. Нам трэба змагацца, калі хочам жыць. "Беларуская Салідарнасьць" дапаможа нам мабілізавацца і аднавіць законную ўладу ў Беларусі, каб адбудаваць наш разбураны ***Беларускі Дом.***

Сойм Партыі БНФ заклікае грамадзянаў Беларусі ўрачыста адсьвяткаваць 25 сакавіка —найвялікшую падзею нашае гісторыі, слаўную дату нашае сучаснасьці.

*Жыве Беларусь!*
*Жывуць ідэалы БНР!*

---

# Беларуская салідарнасьць

***З нагоды перарэгістрацыі Кансэрватыўна-Хрысьціянскае Партыі – БНФ (Партыі БНФ) і атрыманьня 28 лютага 2000г. юрыдычнага пасьведчаньня (а гэта ў сёньняшніх варунках значная падзея, якую Управа Сойму Партыі БНФ адстойвала аж пяць месяцаў замест вызначанага законам аднаго!) сябра Сойму Партыі БНФ Валяньціна Мароз знаёміць чытачоў бюлетэню з канцэпцыяй доўгатэрміновае ўсебеларускае акцыі "Беларуская Салідарнасьць". У межах "Беларускае Салідарнасьці" ўжо некалькі месяцаў праводзіцца збор подпісаў супроць беларуска-расейскае змовы пра так званую "саюзную" дзяржаву. 82-я ўгодкі Беларускае Народнае Рэспублікі, ДЗЕНЬ ВОЛІ 25 сакавіка Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ заклікае ўрачыста адсьвяткаваць па ўсёй Беларусі.***

Сутнасьць акцыі «Беларуская Салідарнасьць» — стварэньне ў грамадзтве станоўчага ідэалу, **заснаванага на барацьбе** ***за беларускія нацыянальныя каштоўнасьці : незалежную дзяржаву, мову, культуру.*** Бо сёньня зноў, каторы раз за нашую тысячагадовую дзяржаўную гісторыю, з расейскага боку праявілася рэальная пагроза нашаму нацыянальнаму існаваньню. Тыя дэмакратычныя каштоўнасьці, якія здабылі грамадзяне Беларусі на пачатку 90-х гадоў (дзякуючы рашучым намаганьням апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце ды пры актыўным супрацiве ўсіх дэмактарычных сілаў краіны тагачаснай камуністычнай сыстэме), сёньня прыйшоў час адстойваць нанова. Праз усталяваныя за апошнія пяць гадоў антыканстытуцыйныя мэханізмы дзьве расейскія групоўкі — адна ў Маскве, а другая ў Менску (нельга назваць беларускім урадам рэжым Лукашэнкі, у якім асноўныя пасады займаюць агенты расейскіх спэцслужбаў) — пасьлядоўна зьліквідоўваюць беларускую дзяржаву, ашукваючы беларускі народ і сусьветную супольнасьць. ***Змоўшчыкі імкнуцца надаць статус міжнароднага права*** пакту «Ельцын-Лукашэнка» (8.12.1999г.), што адкрывае Расеі дарогу да бесьперашкоднага гвалтоўнага захопу Рэспублікі Беларусь. Таму так сьпешна адбылася ратыфікацыя

антыканстытуцыйных дакумэнтаў па стварэньні так званай «саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі» ў Дзярждуме РФ (13.12.1999г.) ды ў лукашэнкаўскай палаце Беларусі (14.12.1999г.). Цяпер паскоранымі тэмпамі пайшло разбурэньне беларускай эканомікі, прыпыненьне актыўнасьці беларускага бізнэсу, зьнішчэньне беларускай культуры, мовы, школы. Людзей, столькі разоў падманутых сыстэмаю, трымаюць пад пастаянным страхам згубіць нават тыя мізэрныя крыніцы існаваньня, якія яшчэ захоўваюцца. *Мы заклікаем грамадзянаў Беларусі праявіць мужнасьць і актыўна далучацца да збору подпісаў супроць пакту "Ельцын-Лукашэнка". Гэта надзвычай важна, бо такім чынам мы апэлюем да Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў,* ***каб не дапусьціць міжнароднага прызнаньня гэтае змовы.***

Акцыя «Беларуская салідарнасьць» — гэта змаганьне з адноўленай ідэалёгіяй камунізму і яе пачварным спараджэньнем — «кэгэбізмам», якія пад прыкрыцьцём псэўдаідэяў «славянскага адзінства» і «аднаўленьня Вялікай Расеі» правакуюць вайну, нянавісьць да чалавека, шавінізм, імпэрскую палітыку. Акцыя «Беларуская салідарнасьць» накіраваная супроць рэваншысцкіх плянаў камуна-імпэрскіх сілаў, супроць інфармацыйнае вайны, якую вядуць расейскія ды лукашэнкаўскія СьМІ.

Мы, грамадзяне Беларусі, не павінны дапусьціць вяртаньня камуна-кэгэбісцкай імпэрыі. Яна нясе пагрозу ня толькі народам, якія адносна нядаўна вызваліліся ад камуністычнага ачмурэньня, але парушае спакой і бясьпеку ўсяе эўрапэйскае супольнасьці.

На беларускай зямлі спрадвеку ўжываліся людзі рознага этнічнага паходжаньня, рознае веры і традыцыяў. Нават у самыя страшныя часы эўрапэйскае гісторыі, падчас рэлігійных войнаў ды палітычных катаклізмаў на Беларусі захоўвалася міжнацыянальная і міжканфэсійная згода, не здаралася патрасальных незваротных канфлікаў. Наадварот, цягам стагодзьдзяў у Беларусі знаходзілі прытулак, а затым і сваю новую радзіму тыя, каго перасьледавалі дэспатычныя ўлады і фанатызаваныя грамадзтвы іншых краінаў. Дастаткова ўзгадаць расейскіх стараавераў і езуітаў з Заходняе Эўропы. Некарэнныя нацыянальныя супольнасьці атрымлівалі на Беларусі гарантыі бясьпечнага існаваньня, актыўна разьвівалі сваю культуру, традыцыі. чым узбагачалі і беларускую этнічную культуру. Вызначальным фактарам у гістарычнай зьяве міжэтнічнага міру была традыцыя беларускае талерантнасьці і патрабаваньне павагі да беларускага этнасу ад іншых нацыянальных меншасьцяў.

Мы зьвяртаемся да ўсіх грамадзянаў Беларусі, у тым ліку да нацыянальных супольнасьцяў — польскае, украінскае, габрэйскае, татарскае, расейскае, летувіскае ды інш. — падтрымаць акцыю «Беларуская Салідарнасьць», стаць на абарону нашае агульнае Радзімы. Кожны з нас павінен знайсьці спосаб прыняць удзел у вырашэньні нашае агульнае задачы — абароны незалежнасьці.

***Народ заўсёды мацнейшы за любы рэжым!***
***Разам – мы сіла!***
*ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!*

# Паведамленьне прэс-службы Партыі БНФ

28 лютага 2000 году Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю – БНФ, пасьведчаньне № 0018.

У Статуце Партыі замацаваныя наступныя палажэньні:

· поўная назва партыі: Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ;

· скарочаная назва партыі: Партыя БНФ;

· Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ ёсьць удакладненая назва Партыі Беларускага Народнага Фронту, якая прынятая на яе чарговым 4-ым Зьезьдзе 26.09.1999г. Партыя БНФ прызнае за сабою ўсю гісторыю грамадзкага аб'яднаньня Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і бярэ на сябе адказнасьць за ўсю ягоную палітыку, усю дзейнасьць і дакумэнты ад пачатку існаваньня БНФ "Адраджэньне". Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ зьяўляецца пераемніцай Партыі Беларускага Народнага Фронту.

· галоўная мэта Партыі БНФ – усталяваньне дэмакратычнага грамадзтва і пабудова моцнай беларускай дзяржавы.

На 4-ым Зьезьдзе Партыі БНФ 26.09.1999г. была прынятая Праграма Партыі. Старшынём Партыі абраны Зянон Пазьняк, намесьнікамі Старшыні – Мікола Анцыповіч, Юры Беленькі, Сяргей Папкоў, Уладзімер Старчанка. Абраны кіруючы ворган – Сойм у складзе 45 сяброў.

На першым арганізацыйным паседжаньні Сойму Партыі БНФ 26.09.1999г. сфармаваны выканаўчы ворган Партыі – Управа Сойму ў складзе 25 сяброў. Адказным сакратаром Управы Сойму Партыі абраны Анатоль Крыварот, сакратарамі Управы Сойму Партыі – Валеры Буйвал, Віктар Каролік, Уладзімер Раманцоў, Тацяна Цяцёркіна, Алесь Чахольскі. Прэс-службу Партыі БНФ узначальвае Валеры Буйвал.

Па рашэньні Зьезду Партыі БНФ праведзена перарэгістрацыя сяброў Партыі. Зь 1 сакавіка г.г.спыняецца прыём заяваў у пацьверджаньне сяброўства ў Партыі БНФ. У далейшым прыём у Кансэрватына-Хрысьціянскую Партыю – БНФ будзе адбывацца на агульных падставах у адпаведнасьці з Палажэньнем, прынятым 26 лютага г.г. Соймам Партыі БНФ, якое адпавядае артыкулам Статуту Партыі.

Зараз у Партыі БНФ у адпаведнасьці са Статутам праводзяцца выбарчыя сходы ў суполках і фармуюцца новыя склады тэрытарыяльных Радаў. Праца разьлічана на люты і сакавік г.г.

Асноўная праца партыйных структураў у 2000г. накіраваная на кансалідацыю беларускага грамадзтва дзеля абароны незалежнасьці Беларусі. У зьвязку з азначаным Партыя БНФ разгортвае акцыю "Беларуская салідарнасьць". Пад сьцягам гэтай акцыі праводзяцца наступныя мерапрыемствы:

· зьбіраюцца падпісныя лісты аб непрызнаньні антыпраўнага пакту Ельцына-Лукашэнкі і перадаюцца ў прадстаўніцтва ААН, Групу АБСЭ ў Менску, амбасады ЗША і Вялікабрытаніі (каб не дапусьціць яго

рэгістрацыі ў якасьці міжнароднага акту);

· прымаюцца заявы ў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі дзеля далейшай кансалідацыі грамадства і пашырэньня супольнасьці "Грамадзяне БНР";

· рыхтуюцца традыцыйныя адраджэнскія масавыя вулічныя акцыі ў абарону незалежнасьці Беларусі: "Дзень Волі – 25 сакавіка", "Чарнобыльскі Шлях", "Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасьня", "Дзяды";

· ва ўсіх раёнах г.Менску і па Беларусі праводзяцца пікеты пад лёзунгам "Лукашэнка – зыходзь", "Улада – закону", "Беларусі – беларускі парадак" ды іншыя.

## ЗАЯВА

19 лютага 2000г. у праграме Беларускага тэлебачаньня "Панарама" член створанай А. Лукашэнкам "палаты прадстаўнікоў" П. Жушма паведаміў, што шэраг апазыцыйных партыяў праводзяць нефармальныя перамовы з уладамі. У ліку іншых партыяў была названая і Партыя БНФ. Як стала вядома, на працягу мінулага і гэтага году ў перамовах бралі ўдзел спадары Ю. Хадыка і В. Вячорка.

У сувязі з заявай П. Жушмы Сойм Партыі БНФ паведамляе, што названыя асобы не ўваходзяць у склад Партыі БНФ. Партыя БНФ ніякіх "скрытых" ці "адкрытых" перамоваў з уладамі рэжыму не праводзіла і не праводзіць.

Дадаткова тлумачым, што 26 верасьня 1999г. на 4-ым Зьезьдзе парлямэнцкая Партыя БНФ была арганізацыйна і статутна ўмацаваная як агульнапалітычная партыя. Была ўдакладненая назва партыі – Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ. У Статуце замацаваная таксама кароткая назва – Партыя БНФ. Дакумэнты пра рэгістрацыю (пасьведчаньні Партыі БНФ, Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Статуты) атрыманыя ў Міністэрстве юстыцыі і захоўваюцца ва Ўправе Сойму Партыі БНФ і Ўправе Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

Некаторыя асобы, якія ўжо не зьяўляюцца сябрамі Партыі БНФ, працягваюць выступаць у якасьці прадстаўнікоў Партыі БНФ у зносінах зь іншымі арганізацыямі, партыямі і ў сродках масавае інфармацыі. У сувязі з гэтым Сойм Партыі БНФ інфармуе, што ***Партыя БНФ не нясе адказнасьці за дзейнасьць іншых асобаў.***

*25 лютага 2000г.*

**Сойм Партыі БНФ**

**Tel/fax (+375 17) 239 69 66, 285 99 90, Minsk, Belarus**

## КРОНІКА

22-23 студзеня сёлета на запрашэньне Руху «Адраджэньне Польшчы» дэлегацыя БНФ наведала Польшчу. У складзе дэлегацыі былі Старшыня БНФ Зянон Пазьняк, намесьнік Старшыні Сяргей Папкоў і прэс-сакратар Валеры Буйвал.

Дэлегацыя наведала гарады Кракаў, Люблін, Варшаву, Катавіцы, Сасновец, Познань. Адбыліся прэс-канфэрэнцыі, пасьля якіх рэгіянальныя і агульнапольскія прэса, радыё і тэлебачаньне шырока асьвятлялі візыт, сытуацыю ў Беларусі і дзейнасьць БНФ. Адбыліся таксама сустрэчы з кіраўніцтвам гарадоў, лідэрамі партыйных і грамадзкіх арганізацыяў, парлямэнтарамі, студэнцкай моладзьдзю.

У Кракаве быў утвораны Камітэт Польшча-Беларусь імя генэрала Станіслава Булак-Булаховіча (Старшыня Пётр Хлябовіч), мэтамі якога зьяўляюцца супрацоўніцтва паміж дэмакратычнымі, незалежніцкімі сіламі дзьвюх краінаў, інфармаваньне польскага грамадства пра становішча ў Беларусі.

***

На пачатку сакавіка Кангрэс ЗША з ініцыятывы Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе ладзіў слуханьні па сытуацыі ў Беларусі. Зь беларускага боку былі запрошаныя Старшыня Вярхоўнага Савету, выконваючы абавязкі прэзыдэнта Беларусі сп. Сямён Шарэцкі, намесьнік Старшыні Анатоль Лябедзька, Старшыня БНФ Зянон Пазьняк, а таксама экс-спікер Станіслаў Шушкевіч. Старшыняваў на паседжаньні кангрэсмэн Крыстафэр Сьміт, які зазначыў, што становішча ў Беларусі робіцца ўсё больш кепскім. Таксама было адзначана, што, нягледзячы на заканчэньне сваіх паўнамоцтваў, Аляксандар Лукашэнка па-ранейшаму застаецца пры ўладзе.

Рос Вільсан, дарадца дзярж-сакратара ЗША ў справах новых незалежных дзяржаваў, наступным чынам пракамэнтаваў спробы акупацыі Беларусі Расеяй: «Рэжым Лукашэнкі даўно страціў сваю легітымнасьць і, на наш погляд, ня мае паўнамоцтваў абавязваць Беларусь да нечага, што можа зьменшыць сувэрэнітэт і самастойнасьць краіны».

Зянон Пазьняк, які ўжо браў удзел у аналягічных слуханьнях у 1996 годзе, адзначыў, што цяперашняе абмеркаваньне мела больш дзелавы і канкрэтны характар.

*(Паводле Радыё Свабода).*

***

18-га сакавіка ў Берасьці на стадыёне «Будаўнік» адбыўся інфармацыйны пікет, які ладзілі сябры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Партыі БНФ. Удзел у ім узялі каля 30-ці чалавек, большасьць зь якіх – моладзь. Асноўныя палітычныя лёзунгі пікету: «Не – расейскай акупацыі!», «Лукашэнка – зыходзь!», «Улада – закону». Падчас мерапрыемства раздаваўся інфармацыйны матэрыял пра Дзень Волі, пра цяперашняе палітычнае і эканамічнае становішча ў Беларусі.

Фотарэпартаж зь пікету – у наступным нумары.

**Малады Фронт – буйнейшая апазыцыйная арганізацыя беларускае моладзі, якая выступае за незалежную моцную эўрапейскую Беларусь, за нацыянальнае адраджэньне і гуртуе ў сваіх шэрагах школьную, студэнцкую й працоўную моладзь.**

## Малады Фронт за:

- рэформы ў эканоміцы, палітыцы і навуцы;
- спэцыялізаванае навучаньне ў школах;
- конкурсы й тэсты замiж іспытаў у студэнтаў;
- найшырэйшыя праграмы эўрапейскага абмену;
- падвышэньне сумы дзяржаўнага бюджэту на адукацыю, культуру, навуку, ахову здароўя;
- памяншэньне тратаў на ўзбраеньне, карныя органы, эканамічныя цыкляпічныя праэкты і стратныя прамысловыя монстры;
- прафэсійную нацыянальную гвардыю;
- вольны рынак;
- свабоду слова, сумленьня і друку, захаваньне правоў чалавека;
- ЗА БЕЛАРУСЬ – Імпэрыю Культуры, фінансавы і тэхналягічны цэнтар Усходняй Эўропы.

## Малады Фронт супраць:

- прарасейскае, правінцыйнае палітыкі дзяржавы;
- жалезабэтоннай сыстэмы адукацыі, папяровых прафсаюзаў, бэ-пэ-эс-эмаў, разьмеркаваньняў ды іншай саўковасьці;
- вялізнага паўгалоднага абкрадзенага войска, дзе забіваюць і калечаць,
- гвалтоўнага насаджэньня як расейскае, так і беларускае мовы і культуры: беларушчыну трэба абуджаць і адраджаць далікатна;
- парушэньня правоў чалавека, дыктатуры і таталітарызму;
- бездухоўнасьці, наркаманіі, СьНІДУ, алькагалізму, падлеткавае злачыннасьці й забруджваньня навакольнага асяродзьдзя.

## Для цябе:

**Малады Фронт – гэта магчымасьць:**

- атрымліваць поўную й дакладную інфармацыю;
- абараніць твае чалавечыя правы;
- стаць сябрам спартовых камандаў і фан-клюбаў;
- паспрабаваць сябе ў прадпрымальніцтве;
- выявіцца ва ўласнай творчасьці.

Мы стаімо за нашую Краіну, за Адраджэньне, за Веру і Любоў, за Свабоду і Дэмакратыю, за магчымасьць проста нармалёва жыць.

*Для нас, як і для цябе, Беларусь – гэта сьвятое.*

# На паседжаньні Цэнтральнае Рады МФ

23 лютага ў Менску прайшло паседжаньне Цэнтральнае Рады Маладога Фронту. Ад Берасьця прысутнічалі сябры Цэнтральнае Рады МФ Сяржук Бахун і Паліна Панасюк, а таксама ў якасьці гасьцей былі спэцыяльна запрошаныя Аляксей Балашоў, Андрусь Мазька й Ліцкевіч Вольга ( становішча, што склалася ў берасьцейскім кіраўніцтве МФ, вымагае больш шырокага прадстаўніцтва).

Паседжаньне Цэнтральнае Рады распачаў Старшыня Маладога Фронту Павал Севярынец, які выступіў перад прысутнымі са спавешчаньнем па палітычнай сытуацыі ў Беларусі й сьвеце. Рэглямант складаўся з пытаньняў стратэгіі й дзейнасьці арганізацыі на 2000г.:

1) Усеагульная акцыя любові 14 лютага;
2) рэгістрацыя МФ у Міністэрстве юстыцыі;
3) перарэгістрацыя сябраў Маладога Фронту.

Было адзначана, што апошнія падзеі 1999г. істотна зьмянілі сытуацыю на Беларусі й па-за яе межамі. Таму праграмы дзейнасьці, што былі распрацаваныя каля паўгады таму, рызыкуюць у сёньняшніх варунках аказацца неэфэктыўнымі.

Павал Севярынец у сваім выступе па пытаньнях стратэгіі нагадаў прысутным, што Малады Фронт зьяўляецца па сутнасьці сваёй рухам хрысьціянска-дэмакратычным, кансэрватыўным. І ў сваёй дзейнасьці павінен прытрымлівацца адпаведных прынцыпаў, расставіць прыярытэты.

14 лютага ў дзень Сьвятога Валянцціна па ўсёй Беларусі маладафронтаўцы ладзяць Усеагульную акцыю любові *(на час выхаду бюлетэню акцыя з посьпехам прайшла па ўсёй Беларусі)*. Мерапрыемства распачне сёлетні палітычны сэзон.Тое, што кожны год гэта робіць менавіта Малады Фронт, ужо сталася традыцыяй, і прычым добрай. Такім чынам, галоўным лёзунгам першай у гэтым годзе палітычнай акцыі стане не "Луку – на муку!" і г. д., але *"I Love You!"*. Моладзь пераможа дыктатуру і зробіць гэта ***Любоўю.***

Самым спрэчным сталася пытаньне рэгістрацыі МФ у Мінюсьце. Пасьля даволі эмацыйнага абмеркаваньня было вырашана вярнуцца да гэтай праблемы пазьней.

P. S. 19 сакавіка адбылося чарговае паседжаньне ЦР МФ, на якім станоўча вырашанае пытаньне пра рэгістрацыю Маладога Фронту.

***Аляксей Балашоў***
***намесьнік старшыні***
***Берасьцейскае філіі***
***Маладога Фронту***

# Каляндар

## выдатных падзеяў і памятных датаў беларускае гісторыі на 2000-ы год

**1050** Пачатак уладараньня першага вядомага ў гістарычных крыніцах полацкага князя Рагвалода.
Заснаваньне горада Турава (сярэдзіна X ст.).

**1000** Сьмерць полацкай князёўны Рагнеды. Пахаваная ў Заслаўі.

**950** Час уладараньня полацкага князя Ўсяслава Чарадзея. Полацкая дзяржава ўмацоўваецца ў палітычных, эканамічных і культурных адносінах (~1050).

**800** Міндоўг (1200?-1263). Вялікі князь і кароль ВКЛ. Заснавальлік Вялікага княства Літоўскага.

**770** Утварэньне ВКЛ са сталіцай у Наваградку (30-я гады XIII ст.).

**725** Гедзімін (1275-1341). Вялікі князь ВКЛ (1316-1341), бацька Альгерда, Кейстута, Яўнута... Заснавальнік дынастыі Гедзімінавічаў. Аб'яднаў фактычна ўсе беларускія землі ў дзяржаву ВКЛ.

**680** Перамога войска ВКЛ на чале з Гедзімінам над крыжакамі пад Меднікамі (1320).

**650** 1350 – год нараджэньня Вітаўта, вялікага князя ВКЛ (1392-1430). За Вітаўтам Вялікае княства дасягнула найбольшай магутнасьці і росквіту. Час княжаньня Вітаўта і наступнае стагодзьдзе называюць ***залатым векам*** у беларускай гісторыі.

**638** Бітва каля рэчкі Сінія Воды на Ўкраіне (1362) паміж войскамі ВКЛ, якімі камандаваў вялікі князь Альгерд, і аб'яднанымі татарскімі войскамі. Татары былі ўшчэнт разьбітыя, значная частка Ўкраіны далучаная да ВКЛ.

**632** Паход вялікага князя ВКЛ Альгерда на Маскву (1368). Ім былі ажыцьцёўленыя таксама другі й трэці паходы ў 1370 і 1373 гадах.

**620** Паход беларускага (ліцьвінскага) войска на чале зь Ягайлам на дапамогу залатаардынскаму хану Мамаю і разанскаму князю Алегу супраць маскоўскага князя Дзьмітрыя (жнівень-верасень 1380).

**610** Берасьце атрымала Магдэбурскае права і ўласны герб (1390).

**590** 15 ліпеня 1410. Перамога войскаў ВКЛ і Польшчы пры ўдзеле чэскіх і татарскіх атрадаў над Тэўтонскім ордэнам крыжакаў пад Грунвальдам (Дуброўнай).

**580** Запрашэньне чэхамі на каралеўскі пасад Вітаўта Вялікага (1420). Прыход у Чэхію пяцітысячнага ліцьвінскага войска на чале з Жыгімонтам Карыбутавічам.

**575** Вітаўт Вялікі імкнецца пераўтварыць беларускае гаспадарства ў каралеўства. Ідуць перамовы з папскім дваром аб каранаваньні Вітаўта.

**510** Нарадзіўся Францішак Скарына (каля 1490-1551?).

**500** Браслаў атрымаў Магдэбурскае права і гарадзкі герб (1550).

**500** Пачатак трохгадовай вайны Масковіі супраць ВКЛ (1550). Гомель на тры гады патрапіў пад маскоўкую акупацыю.

**494** 5 жніўня 1506. Перамога войска ВКЛ над татарамі пад Клецкам.

**486** 8 верасьня 1514. Бітва пад Воршай. Перамога войска ВКЛ начале з гетманам Канстаньцінам Астроскім над маскоўскімі захопнікамі.

**475** Францішак Скарына надрукаваў у Вільні кнігу "Апостал" (1525).

**450** Ваўкавыскі сойм ВКЛ (красавік 1550). Выступ беларускай (ліцьвінскай) шляхты супраць вуніі з Польшчаю.

**450** Нарадзіўся беларускі паэт Андрэй Рымша (1550-1595). Браў удзел у вызваленьні Полацку ад маскоўскіх акупантаў (1579) у вайне 1572-1582 гг.

**450** 9 сьнежня 1550 у Вільні Барбара Радзівіл каранавалася на вялікую княгіню ВКЛ і каралеву Польшчы.

**436** 26 студзеня 1564. Бітва каля в. Іваньск на рацэ Вула. Перамога войска ВКЛ над маскоўцамі.

**436** Другая Аршанская бітва (1564). Атрады войска ВКЛ перамаглі авангард маскоўцаў, якія меліся злучыцца з групоўкай, разьбітай на рацэ Вула.

**412** Выдадзены Статут ВКЛ. Зацьверджаны 28 студзеня 1588. Звод законаў дзяржавы. Помнік юрыдычнай думкі і беларускага пісьменства.

**410** Любча атрымала Магдэбурскае права і герб горада (1590).

**400** Нарадзіўся Казімір Семяновіч (1600-пасьля 1651). Беларускі вайсковец, інжынер у галіне артылерыі, навуковец. Стваральнік шматступеневай касьмічнай ракеты. Аўтар кнігі "Вялікае майстэрства артылерыі" (1650, Амстэрдам).

**400** 8 лютага 1600. Пачатак вайны паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй.

**390** 24 чэрвеня 1610. Перамога аб'яднанага войска Рэчы Паспалітай над маскоўскім каля Клушына.

**380** 13 сьнежня 1620. Ворша атрымала Магдэбурскае права і гарадзкі герб.

**379** Бітва пад Хоцінам, якая адбылася 2-29 верасьня 1621 паміж аб'яднаным войскам Рэчы Паспалітай і турэцка-татарскай ардой.

У выніку гэтай кампаніі 70-тысячнае войска Рэчы Паспалітай ушчэнт разьбіла 220-тысячную армаду туркаў і татараў. Натхняльнік і арганізатар перамогі – вялікі беларускі палкаводзец, гетман ВКЛ Ян Караль Хадкевіч.

333 30 студзеня 1667 заключанае Андрусаўскае замірэньне паміж Масквой і ВКЛ. Была завершаная самая крывавая вайна ў гісторыі Беларусі (1654-1667), у якой загінуў кожны другі жыхар краіны.

300 Пачалася Паўночная вайна (1700-1721) паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай. 8 гадоў Расея ваявала супраць Швэцыі на тэрыторыі Беларусі. Загінуў кожны трэці жыхар нашай краіны.

225 Заснаваньне ў Гародні Вышэйшай мэдычнай акадэміі (1775).

225 Скасаваньне расейскім урадам Магдэбурскага права ў Магілёўскай губерні (1775).

206 24 сакавіка 1794 пачалося вызвольнае паўстаньне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі.

200 Язэп Ходзька (6 сьнежня 1800-21 лютага 1881). Геадэзіст і тапограф, генэрал-лейтэнант.

200 У Вільні нарадзіўся Міхал Кулеша (1800-1863). Беларускі мастак. Працаваў у жанрах краявіду, гістарычным, батальным.

200 Валеньці Ваньковіч (14 траўня-12 траўня 1842). Беларускі мастак-рамантык. Нарадзіўся ў маёнтку Калюжыца Бярэзінскага павету. Жыў у Менску, пахаваны ў Парыжы.

175 Фадзей Гарэцкі (5 траўня 1825-1868). Беларускі мастак. Выконваў размалёўкі Ісакаўскага сабору ў Санкт-Пецярбурзе. Жыў на Віцебшчыне.

170 Лістапад 1830. Пачатак нацыянальна-вызвольнага антырасейскага паўстаньня 1830-1831.

162 Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі (2 лютага 1838). Кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863-1864 у Беларусі і Літве. ***Нацыянальны герой Беларусі.***

160 Францішак Багушэвіч (21 сакавіка 1840-28 красавіка 1900). Беларускі паэт, юрыст.

150 Марыя Косіч (1850-1911). Беларуская фальклярыстка, этнограф, пісьменьніца.

150 Мікалай Судзілоўскі (15 сьнежня 1850-30 красавіка 1930). Дзяяч міжнароднага вызвольнага руху, навуковец-прыродазнаўца, доктар мэдыцыны. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстаньня баўгараў супраць турэцкага ярма (1876). Жыў і працаваў у Заходняй Эўропе, ЗША, на Гаваях. У 1900 абраны сэнатарам, а ў 1901 – прэзыдэнтам Гавайскай Рэспублікі.

137 Студзень 1863. Пачатак нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863-1864 у Польшчы, Беларусі і Літве супраць Расеі.

136 Пакараньне сьмерцю Кастуся Каліноўскага расейскімі ўладамі ў Вільні 22 сакавіка 1864. ***Усебеларускі дзень памяці Кастуся Каліноўскага.***

118 Янка Купала (7 ліпеня 1882-26 чэрвеня 1942). Нацыянальны беларускі паэт.

118 Якуб Колас (3 лістапада 1882-13 жніўня 1956). Нацыянальны беларускі паэт і пісьменьнік.

100 Адкрыцьцё ў Менску публічнай бібліятэкі (1900).

100 Міхась Забэйда-Суміцкі (14 чэрвеня-12 сьнежня 1981). Беларускі сьпявак. Яркі прадстаўнік эўрапейскай вакальнай школы. Пахаваны ў Празе.

100 Пётра Сергіевіч (10 ліпеня 1900-1 лістапада 1984). Беларускі мастак. Жыў і працаваў у Вільні, дзе й пахаваны.

100 Гаўрыла Гарэцкі (10 красавіка 1900-20 лістапада 1988). Беларускі геоляг, географ, эканаміст, дзяяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Акадэмік, доктар геоляга-мінэралягічных навук.

100 Кузьма Чорны (24 чэрвеня 1900-22 лістапада 1944). Беларускі пісьменьнік.

100 Мікола Касьпяровіч (22 траўня 1900-26 сьнежня 1937). Беларускі этнограф, мовазнаўца, літаратуразнаўца, мастацтвазнаўца.

100 Уладзімір Дубоўка (15 ліпеня 1990-23 сакавіка 1976).

100 Уладзімір Жылка (27 траўня 1900-1 сакавіка 1930).

90 Нарадзіўся Барыс Кіт (24 сакавіка 1910). Удзельнік беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Прафэсар, адзін зь вядучых амэрыканскіх дасьледнікаў у галіне ракетнага паліва. Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы.

90 Ларыса Геніюш (9 жніўня 1910-7 красавіка 1983). Беларуская паэтка.

83 Перщы Ўсебеларускі Кангрэс. Праходзіў у сьнежні 1917.

82 25 сакавіка 1918. ***Дзень Волі.*** Абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

80 27 лістапада 1920. Распачалося збройнае змаганьне за БНР – ***Слуцкі збройны чын.***

75 Стварэньне Беларускай сялянска-работніцкай грамады (1925).

70 Уладзімір Караткевіч (26 лістапада 1930-25 ліпеня 1984). Беларускі пісьменьнік.

55 8 траўня 1945. Дзень сканчэньня ў Эўропе Другой сусьветнай вайны.

10 27 ліпеня 1990. Прынятая Дэклярацыя пра дзяржаўны сувэрэнітэт Беларусі.

## Ад рэдакцыі:

Роўна адзінаццаць гадоў таму, напярэдадні Дня Волі і выбараў у тагачасны Вярхоўны Савет СССР, у сакавіку 1989 выйшла ў сьвет першае непадцэнзурнае выданьне Найноўшае гісторыі Берасьцейшчыны: інфармацыйны бюлетэнь «ШЛЯХ» Баранавіцка-Берасьцейскага адзьдзяленьня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», які падрыхтавалі Мікола Пракаповіч і Сымон Сьвістуновіч.

Сёньня мы бачым, які нялёгкі быў гэты шлях як самога выданьня, так і людзей, што стаялі ля вытокаў усяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў нашым краі. Некаторых, на жаль, ужо няма сярод нас (Уладзімер Базан, Ігар Драгун...). Іншыя, зьняверыўшыся ці стаміўшыся, або, магчыма, па нейкіх іншых прычынах адышлі ад актыўнай працы. Але, без перабольшаньня, самаахвярнасьць гэтых ды іншых тысячаў адраджэнцаў не была марнаю: сёньня мы жывем у незалежнай Беларусі.

Наперадзе шмат працы. Ды існуе вечны закон прыроды і жыцьця: стаўшы на Шлях да свае чалавечае й нацыянальнае годнасьці, зрабіўшы першыя крокі, ніколі ня варта спыняцца і адчайвацца, бо інакш – духовая сьмерць і небыцьцё.

Мы, калектыў рэдакцыі выданьня, якое шаноўны чытач трымае ў руках, уважаем сябе за пераемнікаў выдаўцоў «ШЛЯХУ» і з Вашаю дапамогаю будзем доўжыць справу сваіх папярэднікаў-шляхаўцаў – будаваць наш агульны БЕЛАРУСКІ ДОМ.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!!!

---

### Пра што пісаў «ШЛЯХ» у №1/1989

*(правапіс арыгіналу захаваны).*

«Шаноўны чытач! Табе, мабыць, не ў навіну чуць «крайне отрицательные» выказваньні сваіх «супляменьнікаў» пра нефармальны грамадскі рух... Вось і на нядаўніх сходах выбаршчыкаў у Кобрыне і Пружане Я.Я. Сакаловым (заўв. рэд.: Я. Я. Сакалоў-тагачасны 1-ы сакратар ЦК КПБ) было заяўлена, нібыта ніякага Беларускага Народнага Фронту няма, апроч хіба што невялікага ядра «экстрэмістаў»...

Супраціўленьне бюракратаў-функцыянераў Ты, чытач, скрозь адчуваеш і ў сябе на Берасьцейшчыне. У чым яно праяўляецца? Найперш -- у прыніжэньні тваёй чалавечай годнасьці: маўляў, простаму люду трэба есьці і рабіць, астатняе яго не абыходзіць. У парушэньні дэмакратычных прынцыпаў... Ва ўсечанай галоснасьці ... У немагчымасьці весьці дыялог праз мясцовы друк, праз абласную газету «Заря», у якой, скажам, так і не пабачылі сьвету шматлікія водгукі на сумна вядомыя артыкулы «Эволюция политического невежества» і «Пена на волнах перестройки» (заўв. рэд.: артыкулы ва ўсіх дзяржаўных газэтах у стылі «Зимовский-Козиятко».

Усё гэта і змусіла нас пачаць выпуск інфармацыйнага бюлетэня, які Ты зараз трымаеш у руках...

***

***Кобрынь.*** У найлепшых традыцыях застойных часоў праходзіў тут сьпектакль па вылучэньні кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР. Праўда, кандыдатаў было ... ўсяго адзін --- Я. Я. Сакалоў. Узыходзілі на трыбуну зацьверджаныя партыйнымі арганізацыямі прамоўцы, услаўлялі кандыдата, а заадно і свой уклад у перабудову, Ужо пачала драмаць зала, закалыханая дыфірамбамі, калі раптпм загучалі словы рабочага Я. І. Хамені. Яго выступ, як выбух бомбомбы, скалануі прэзідыум. Нагадаўшы заслугі кандыдата ў асушэньні Палесься, у насаджэньні суперкомплексаў, што па эфекту забруджваньня асяродзьдзя могуць супернічаць зь вялікімі гарадамі, прамоўца зрабіў выснову: :»Я ўважліва прачытаў Вашу біяграфію, Яфрэм Яўсеевіч, і лічу, што Вам самы час надумаць не пра дэпутацкі мандат, а пра заслужаны адпачынак.» Зала доўжнымі апладысьментамі падтрымала рабочага.

***

Па-рознаму праходзілі прафсаюзныя сходы на Брэсцкай студыі тэлебачаньня: лаялі тэхніку, высьвятлялі адносіны з кіраўніцтвам і адзін з другім, а найчасьцей пераказвалі шэптам плёткі ці чыталі.

Але сход, які адбыўся ў лютым, напэўна, запомніцца надоўга. Пасьля звычнага рытуалу абраньня прэзідыуму з залы была ўнесена прапанова ўключыць у абвестку дня пытаньне пра адносіны членаў прафсаюза да БНФ. Што тут пачалося! Старшыня камітэту Ю. Сацінаў заявіў, што пакідае сход (пасьля ў Брэсьце жартавалі: меншавікі пакінулі залу); галоўны рэдактар В. Лоскі патрабаваў выгнаць з прэзідыуму старшыню мясцовага камітэту як самазванца... Аднак большасьцю галасоў прапанова была прынятая. На Брэсцкай студыі тэлебачаньня была створаная група падтрымкі БНФ «Адраджэньне». А пасьля пачаліся рэпрэсіі: пасыпаліся вымовы, недвухсэнсоўныя «индивидуальные беседы». Не ўсе выходзілі зь іх пераможцамі. Не ўсе выстаялі. Рэпрэсіі працягваюцца.»

**Гарадзкая Рада Партыі БНФ і Руху Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» :адрэса:** г. Берасьце, вул. Інтэрнацыянальная, 17, пак. 17 (кожны аўторак і чэцьвер а 18 гадзіне).тэл. 20-20-87
**Старшыня:** Сяргей Божык
**Сакратар:** Дойбан Дзіна Васілеўна
**Старшыня абласной Рады:** Вітаўт Здановіч



БЕРАСЬЦЕ
№ 3-4 Люты/Сакавік
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца сярод сябраў і прыхільнікаў БНФ.

**Адрэса рэдакцыі**: г. Берасьце, вул. Інтэрнацыянальная, 17, пак.17, т. 20-20-87,
**Рэдактар**: Мікола Новік. **Вёрстка**: Аляксей Балашоў.
Надрукавана пры дапамозе Берасьцейскага абласнога Цэнтру падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў **"ВЕЖА"**

Інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейскай гарадзкой Рады Партыі БНФ і Руху Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"

# 333 гады

## з часу завяршэньня 13-гадовай расейска-беларускай вайны

### 1654—1667 гг.

(з гісторыі інтэграцыі)

Да сярэдзіны XVII стагоддзя нашая дзяржава, якая тады называлася Вялікім Княствам Літоўскім, ужо на працягу больш чым 150 гадоў стрымлівала агрэсіўны наступ Маскоўшчыны. Ніводнае пакаленьне беларусаў не ведала тады міру, мусіўшы бараніць Айчыну ад маскоўскай навалы: у 1492–1494, 1500–1503, 1507–1508, 1512–1522, 1534–1537, 1563–1579 гг. і г.д. Гэтыя войны вымотвалі сілы нашай дзяржавы, разбуралі яе эканоміку і прымушалі да цеснага хаўрусу з Польскім каралеўствам.

У сярэдзіне XVII ст. паўстала пагроза новай вайны з Маскоўшчынай. 14 сакавіка 1653 г. маскоўскі патрыярх Нікан благаславіў цара Аляксея Міхайлавіча на захоп Беларусі. Цар паведаміў украінскаму гетману Б.Хмяльніцкаму пра згоду Масквы узяць Украіну пад сваю "высокую руку" і такім чынам далучыў яе да сваёй захопніцкай авантуры.

Увесну 1654 г. маскоўскае войска колькасьцю звыш 100 тысяч чалавек рушыла на Беларусь. Усе тры маскоўскія арміі ўдарылі адначасова. Групоўка, якой кіравалі ваявода Шарамецеў і баярын Стрэшнеў, скіравала свой удар на Падзьвіньне — Полацак, Віцебск, Невель. Армія пад камандай ваяводы князя Трубяцкога рушыла на Амсьціслаў — Барысаў. Цэнтральнай арміі, якой узяўся камандаваць сам цар, адводзілася галоўная задача: авалодаць стратэгічнай фартэцай — брамай у Беларусь — Смаленскам. Для дапамогі маскоўскаму войску Багдан Хмяльніцкі выслаў на Беларусь 20 тысяч казакаў, якім даручалася акупаваць нашыя землі ўздоўж Дняпра і Сажа — ударыць ў фланг беларускага войска, захапіць Гомель, Чачэрск, Стары Быхаў ды іншыя гарады. Гераічна змагаліся гарнізоны беларускіх гарадоў, але сілы былі няроўныя. У абцугах аблогі апынуўся Смаленск, капітуляваў Полацак, ворагі захапілі Амсьціслаў, Невель, Рослаў, але не здаваўся Стары Быхаў, змагаліся Ворша і Дуброўна. У маскоўскіх дакументах адзначаецца, што пры захопе Амсьціслава агулам было "побито больше пятнадцати тысяч человек", "Трубецкой со товарищи город Мстиславль взял и высек и выжег, а побил в нем больше пяти на десять тысяч..." Захапіўшы Дзісну і Друю, ваявода Шарамецеў паведамляў цару: "Взяли взятьем и ратных и всяких людей, которые в городе сидели, побили и город и костелы и домы все пожгли без остатку..." Праз 14 тыдняў аблогі войска Шарамецева і казакі Залатарэнкі штурмам здабылі Віцебск і ягоныя замкі. Бальшыня жыхароў адмовіліся прысягаць цару, мілуючы сваю Айчыну, таму



Зверствы расейскага войска пад час вайны 1563–1579 гг. Гравюра XVI стагоддзя.

іх з сем'ямі забралі ў палон і разаслалі на продаж у розныя гарады Маскоўшчыны. Вяліж і Сураж цар загадаў цалкам спаліць. Былі захопленыя Менск, Вільня, Горадня, Берасьце. Тагачасныя нямецкія газэты, інфармуючы Эўропу пра трагедыю нашай краіны, паведамлялі, што жанчын захопнікі адсылалі ў Маскву, а старых і дзяцей кідалі



Спусташэньне Беларусі пад час вайны 1654–1667 гг. Гравюра XVII стагоддзя.

ў агонь. Яны рабавалі палацы, замкі, храмы, вывозілі ў Маскву іх начыньне, званы, кнігі, арганы, алтары, упрыгожваньні, разбуралі нават надмагільлі, нябожчыкаў выкідвалі з трунаў, манахаў і сьвятароў забівалі, палілі храмы, як каталіцкія, вуніяцкія, так і праваслаўныя. Маскоўскі цар Аляксей загадаў сваім ваякам спусташаць гарады, забіваць і паланіць людзей, паліць вёскі, збожжа, сена, зьнішчаць гаспадарку. Па сутнасці ўжывалася тактыка «выпаленай зямлі».

Нягледзячы на нечуваную жорсткасьць маскоўскіх акупантаў, у нашым народзе пастунова нарастаў дух адпору, аднаўлялася беларускае войска, па ўсёй краіне пашыраўся партызанскі рух. Даведзенае да адчаю насельніцтва Беларусі ўзьнялося на збройную барацьбу з ворагам.

1 лютага 1661 г. жыхары Магілева ўзьняліся на паўстаньне супраць расейскіх захопнікаў, вызвалілі з палону нашых жаўнераў і разам перабілі ўвесь варожы гарнізон. У Воршы і ваколіцах дзейнічалі аддзелы палкоўніка Самуля Кміціча, у Амсьціславе — Якіма Патаповіча, у Менскім і Наваградскім ваяводствах — палкоўніка Дзяніса Мурашкі, на Віцебшчыне — палкоўнікаў Камароўскага і Мікалая Валовіча. Неўзабаве партызаны наладзілі стасункі з вялікім гетманам Паўлам Сапегам. У 1659–1660 гг. адбыўся карэнны пералом у вайне і нашае войска ў цесным узаемадзеяньні з партызанамі распачало выгнаньне ворага з роднай зямлі. У студзені 1667 г. у вёсцы Андрусава было падпісанае мірнае пагадненьне, паводле якога Беларусь страціла Смаленскую зямлю. Вайна, якая доўжылася 13 гадоў, была скончаная.

Гэта была сама страшная і крывавая вайна ў гісторыі Беларусі. Ваенныя дзеяньні, масавае знішчэньне акупантамі мірных жыхароў, голад, эпідэміі і дэпартацыя скарацілі насельніцтва нашай Бацькаўшчыны больш чым удвая, а дакладней на 53% (да вайны было 2,9 мільёна чалавек, пасля вайны — 1 мільён 350 тысяч). Больш за 300 тысяч жыхароў Беларусі было вывезена ў маскоўскі палон, дзе іх прадавалі па тры–пяць, а то і па адным рублі за душу. Былі амаль цалкам разбураныя і спаленыя беларускія гарады; у Віцебску, напрыклад, страты насельніцтва склалі 94%, у Полацку — 93%, у Ляхавічах — 92%. Ва ўсходніх і паўночных паветах не засталося і трэці насельніцтва. Гаспадарка нашай краіны апынулася ў жудасным стане, а для аднаўленьня яе не ставала ні людзей, ні сродкаў. Дэмаграфічныя вынікі вайны былі настолькі катастрафічныя, што толькі праз два стагоддзі Беларусь змагла дасягнуць даваеннай колькасці насельніцтва. Ад мора пралітай крыві, няшчасьцяў і разбурэньняў, якія прынесла расейскае нашэсьце, відавочцы назвалі гады той вайны «патопам».

*Захаваны правапіс арыгіналу*